МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№6 (146)
чэрвень 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ПАДАРУНАК МУЗЕЮ ВАСІЛЯ БЫКАВА АД БЕЛАРУСАЎ ПЕЦЯРБУРГА

19 чэрвеня пад Мінскам у пасёлку Ждановічы-6 адбылося ўрачыстае адкрыццё музея-дачы Васіля Быкава, прымеркаванае да 90-годдзя пісьменніка.

*Чытайце на стар. 3*

### ЯК БЕЛАРУСКА Ў ЗША ЗАЦІКАВІЛА БЕЛАРУШЧЫНАЙ МУЖА-РАСІЙЦА

"Я размаўляю з мужам па-беларуску, прапаную яму чытаць кнігі пра беларускую гісторыю. На адной з імпрэзаў у Чыкага муж быў беларускім Дзедам Марозам, праўда, гаварыў крыху з рускім акцэнтам", – падзялілася беларуская эмігрантка ў ЗША Жанна Чарняўская.

*Чытайце на стар. 4*

### "САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ І БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА"

21 чэрвеня 2014 г. у канферэнц-зале Расійскай нацыянальнай бібліятэкі з ініцыятывы Санкт-Пецярбургскай асацыяцыі беларусістаў адбылася ўжо 22-я штогадовая навуковая канферэнцыя "Санкт-Пецярбург і беларуская культура".

*Чытайце на стар. 5*

### ЗАСТАЦЦА Ў ГІСТОРЫІ

Створаны Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа.

*Чытайце на стар. 6*

ПАДЗЕЯ

## ПЯТЫ ФЕСТЫВАЛЬ AD.NAK! – ПАДЗЕЯ ГЛАКАЛЬНАГА МАШТАБУ!



*Сяргей Скараход і Ніна Шыдлоўская адкрываюць цырымонію Ad.nak!*
*Фота Аляксандра Ждановіча*

Пяты фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі Ad.nak!, які ладзіцца з ініцыятывы грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", годна адзначыў свой першы юбілей. Фестывальны дзень адбыўся 25 чэрвеня ў Мінску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Раў (IBB).

Пяты фестываль Ad.nak! традыцыйна падвёў вынікі развіцця беларускамоўнага рэкламна-камунікацыйнага рынку за год, вызначыў найлепшых, а таксама ўзмацніў сусветны трэнд: калі ты хочаш быць заўважным, заўважаным і паважаным, трэба дбаць пра сваё, абапіраючыся на нацыянальнае, ментальнае. Тады ты паспяховы, тады ты – сучасны, ты – адметны! Асноўная ідэя, якую нясе Фестываль сёлета, – "Думай глабальна – дзейнічай лакальна!", таму слоган Фестывалю – "Трэба так! Дбай пра сваё – не прагадаеш!"

Урачыстай цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў папярэднічала насычаная адукацыйная праграма, у межах якой прайшлі семінары і майстар-класы вядомых экспертаў у рэкламна-камунікацыйнай сферы.

На конкурсную праграму Фестывалю Ad.nak!-2014 было пададзена болей за 400 заявак амаль ад 200 удзельнікаў, што дэманструе як устойлівае развіццё беларускамоўнага рэкламнага рынку, так і ўздым цікавасці да ўдзелу ў Фестывалі з боку маладых прафесійных рэкламістаў. Да прыкладу, у 2013 годзе было пададзена 314 заявак ад 105 удзельнікаў, у 2012 годзе – 330 заявак ад 110 удзельнікаў, у 2011 годзе – 272 заяўкі ад 100 удзельнікаў, а ў 2010 годзе – 105 заявак ад 59 удзельнікаў.

Сёлета было прысуджана ажно 6 Гран-пры (летась – 2), 17 першых месцаў (6 летась), 33 другія месцы і 41 трэцяе.

Самую вялікую колькасць заявак сабрала намінацыя "Графічны і камунікацыйны дызайн" – больш за 130. На другім месцы – "Сацыяльная рэклама": было пададзена 43 работы. Упэўненае трэцяе месца ў "Інтэрактыўнай рэкламы" – 37 работ.

➲

# ПЯТЫ ФЕСТЫВАЛЬ AD.NAK! – ПАДЗЕЯ ГЛАКАЛЬНАГА МАШТАБУ!

Сярод намінацый, у якіх не было больш дробнага дзялення на паднамінацыі, безумоўны лідар – "Беларускаарыентаваны рэкламны і камунікацыйны праект" – 32 заяўкі. Сёлета журы аднагалосна адзначыла высокую якасць і значнасць пададзеных у гэтую намінацыю работ – 20 з іх увайшлі ў шорт-ліст, а 7 сталі пераможцамі. 26 работ было пададзена ў намінацыю "Грамадсказначныя праекты". Сябры журы адзначаюць, што пераважная колькасць з іх – праекты, скіраваныя на прасоўванне беларускай мовы.

На жаль, ніводнай работы не было пададзена ў намінацыю "Маркетынгавая эфектыўнасць", толькі некалькі – у "Радыёрэкламу", "Рэкламныя кампаніі" ды "Інавацыі".

Частка фестывальных конкурсаў сёлета прайшла ў новым фармаце – воркшоп. У гэтым фармаце пад кіраўніцтвам прафесійных куратараў удзельнікам прапанавалася стварыць вонкавую і друкаваную рэкламы на злабадзённыя тэмы – супраць распаўсюду і ўжывання моладдзю сінтэтычных наркотыкаў ("Ad.nak! супраць drugs") і дзеля папулярызацыі безнаяўных разлікаў у краіне ("Плацім безнаяўна"). У гэтым жа фармаце прайшоў конкурс "Інфаграфуй гісторыю Ad.nak!", у межах якога канкурсанты рабілі сучасную інфаграфіку. Агулам тры воркшопы сабралі больш за 70 удзельнікаў.

Арганізатары Ad.nak! адзначаюць уплыў Фестывалю на рэкламны рынак – сёння беларускамоўная рэклама робіцца адным з трэндаў! Напярэдадні падзеі партнёр Фестывалю кампанія MACMI зрабіла маркетынгавае даследаванне на просьбу кампаніі "Будзьма беларусамі!", прысвечанае выкарыстанню беларускай мовы. 56% беларусаў пазітыўна ацэньваюць наяўнасць беларускай мовы ў рэкламе, крыху болей – 60% – падтрымалі мову ў афармленні гарадоў і вітрынаў, што дэманструе ўстойлівую тэндэнцыю. Нагадаем, тыя ж лічбы ў 2012 годзе дэманстравала апытанне лабараторыі "Новак".

Вынікі сёлетняга Фестывалю сведчаць, што гэты трэнд не застаўся па-за ўвагай рэкламістаў. Шмат таленавітых прафесіяналаў уцягваецца ў працэс развіцця беларускамоўнай рэкламы. Але па-ранейшаму існуюць праблемы з падыходам да беларускай рэкламы, у ёй не хапае ментальнай дакладнасці – часам рэкламісты валошкамі і нацыянальнымі арнаментамі падмяняюць сутнасць беларускага характару. Такім чынам, арганізатары Фестывалю Ad.nak! адзначаюць: будучыня беларускай рэкламы – у пошуку гарманічнага спалучэння сучаснасці і традыцыі. А дадзеныя сацыялагічных даследаванняў, уздым цікавасці рэкламістаў да ўдзелу ў Фестывалі і вынікі Пятага Ad.nak! паказваюць яго вялікі патэнцыял і шырокія межы для развіцця.

Арганізатары Фестывалю (кампанія "Будзьма беларусамі!" і праект Marketing.by) дзякуюць усім партнёрам, а найперш генеральнаму партнёру - кампаніі velcom, за высілкі, дзякуючы якім сёлетні Фестываль адбыўся на высокім узроўні і працягвае матываваць бізнес да шырокага выкарыстання беларускай мовы.

*budzma.by*

НАВІНЫ

## У ШВЕЙЦАРЫІ ХОЧУЦЬ ВУЧЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Беларуская дыяспара ў Швейцарыі хоча адчыніць беларускамоўны клас, у якім апрача вывучэння мовы, будуць знаёміць з беларускай культурай і гісторыяй. Як распавёў прэзідэнт Аб'яднання беларусаў у Швейцарыі Аляксандр Сапега, памяшканне ўжо ёсць, цяпер ідуць пошукі настаўнікаў і ахвотных для вывучэння беларускай мовы.

"Я спадзяюся, што мы знойдзем дастаткова людзей, гэта павінны быць не толькі дзеці, але і дарослыя, якія цікавяцца беларускай мовай. Гэта могуць быць не абавязкова беларусы, але і швейцарцы, якія, можа, маюць бізнес у Беларусі і зацікаўленыя ў беларускай мове".

Як распавёў Аляксандр Сапега, цяпер ідуць працы па падрыхтоўцы базы для адкрыцця беларускамоўных класаў. Калі знойдзецца настаўнік і адпаведная колькасць ахвотных, то беларускамоўныя класы ўжо ў верасні будуць адчыненыя альбо ў Цюрыху, альбо ў Берне.

*Ганна Шайкоўская,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## ВЫЗВАЛІЛІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА




Праваабаронца і палітвязень Алесь Бяляцкі ранкам 21 чэрвеня быў афіцыйна вызвалены па амністыі. Пра сваё вызваленне Алесь даведаўся раптоўна. Сустракаць яго на станцыю "Інстытут культуры" ў Мінску прыйшлі некалькі дзясяткаў сяброў і калег.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 гады турмы ў лістападзе 2011 года. Яго прызналі вінаватым у нявыплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў, бо ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасць. У 2012 і 2013 гадах Алесь Бяляцкі быў намінаваны на Нобелеўскую прэмію міру.

Непасрэдна перад арыштам у 2011 годзе Бяляцкі знаходзіўся некалькі дзён у Літве і меў інфармацыю пра магчымае будучае затрыманне, аднак, нягледзячы на пагрозу, вырашыў вярнуцца ў Беларусь.

*Паводле generation.by*

# ПАДАРУНАК МУЗЕЮ ВАСІЛЯ БЫКАВА АД БЕЛАРУСАЎ ПЕЦЯРБУРГА



19 чэрвеня пад Мінскам у пасёлку Ждановічы-6 адбылося ўрачыстае адкрыццё музея-дачы Васіля Быкава, прымеркаванае да 90-годдзя пісьменніка. Музей размясціўся ў лецішчы, пабудаваным самім Васілём Уладзіміравічам і яго жонкай Ірынай Міхайлаўнай. Пасля смерці мужа спадарыня Ірына перадала будынак дзяржаве для стварэння музея.

Сярод гасцей, запрошаных да ўдзелу ў цырымоніі адкрыцця, былі і беларусы Пецярбурга – намеснік старшыні Рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства Аляксандр Станкевіч і кіраўнік Санкт-Пецярбургскага аддзялення банка "Адміралцейскі" Віталь Аляшкевіч. Адмыслова да гэтай урачыстай падзеі яны прывезлі ў падарунак музею партрэт Васіля Быкава, намаляваны пецярбургскім мастаком Сяргеем Ткачэнкам.

Мы сустрэліся з гасцямі перад імпрэзай, каб даведацца крыху больш пра гэтую карціну і гісторыю яе стварэння.

Сяргей Ткачэнка сам паходзіць з Пецярбурга, але жонка ў яго – беларуска з Глыбокага, і ён нямала працаваў у Беларусі. Тут ён напісаў шмат партрэтаў беларускіх культурных дзеячаў.

"На адной з выставаў у Пецярбургу ў Доме Дзяржавіна, арганізаванай беларускім зямляцтвам, мы ўбачылі партрэт Станюты, – расказвае Віталь Аляшкевіч. – А потым, калі завіталі да мастака дадому, убачылі ў альбоме яшчэ і партрэт Быкава. Прыйшла ідэя, што партрэты трэба вярнуць туды, дзе яны мусяць быць. Партрэт Станюты мы купілі і падарылі ў сакавіку мінулага года на адкрыццё тэатра імя Янкі Купалы пасля рэстаўрацыі, а партрэт Быкава мы дорым сёння дачы-музею".

У 1993 годзе Сяргей Ткачэнка напісаў серыю партрэтаў дзеячаў беларускай культуры і мастацтва. Пачалося ўсё з музыкі і майстра народных інструментаў Уладзіміра Пузыні, потым быў партрэт дырэктара нацыянальнага музея Юрыя Карачуна, затым партрэты Рыгора Барадуліна, Аляксея Марачкіна, Стэфаніі Станюты, Івана Чыгрынава, Васіля Быкава… Частка гэтых карцін падораная, частка выкупленая, нейкія застаюцца ў мастака. З серыяй гэтых карцін Ткачэнка ўпершыню экспанаваўся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ў 1994 годзе.

Аляксандр Станкевіч назваў знакавым тое, што партрэт Васіля Быкава, які пабываў на многіх выставах, цяпер вяртаецца сюды. Спадар Аляксандр расказаў гісторыю гэтага партрэта: "Васіль Быкаў, як вядома, сябраваў з Рыгорам Барадуліным. І калі Ткачэнка напісаў партрэт Барадуліна, таму гэта спадабалася, і ён прывёў мастака да Быкава і пазнаёміў іх. Спачатку Сяргей Ткачэнка зрабіў некалькі эскізаў алоўкам на паперы, Быкаву яны спадабаліся, і ён пагадзіўся пазіраваць для партрэта. Быкаў сам выбраў з некалькіх накідаў той, на якім ён быў выяўлены ў найбольш характэрнай для сябе паставе. Як сведчыць мастак, гэта адзіны прыжыццёвы партрэт Васіля Быкава з натуры, дзе ён пазіраваў сам. Пісаўся партрэт у кватэры Васіля Быкава на вуліцы Танкавай".

Уручаючы карціну на цырымоніі адкрыцця музея, Віталь Аляшкевіч, які выступіў мецэнатам і набыў для музея гэты каштоўны падарунак, расказаў:

"Калі я зазбіраўся ў Мінск, мае знаёмыя, сваякі, кліенты пыталі, што я буду там рабіць. І я адказваў, што еду на адкрыццё музея Васіля Быкава, што мы хочам падарыць музею яго прыжыццёвы партрэт. Дык вось, ніхто не пытаў, хто такі Васіль Быкаў: ні маладыя, ні пажылыя, ні людзі сярэдняга веку. А калі я казаў па-руску "Василий Быков", некаторыя папраўлялі мяне: "Виталий Иванович, *Василь* Быков". Таму Васіль Быкаў не толькі ў Беларусі чалавек вядомы, блізкі і родны, але і ў Расіі. Я яшчэ студэнтам яго кнігі чытаў і фільмы паводле іх глядзеў, і дзеці мае таксама знаёмыя з яго творчасцю".

Спадар Віталь згадаў, што калі беларусы Пецярбурга дарылі партрэт Стэфаніі Станюты Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы, то ўручылі яго з пажаданнямі, каб гэта быў не апошні партрэт, каб іх з'яўлялася больш. І вось нядаўна ў размове дырэктар тэатра паведаміў, што з лёгкай рукі беларусаў Пецярбурга ім быў падораны яшчэ адзін партрэт.

"Я думаю, – працягнуў свой выступ Віталь Аляшкевіч, – што і гэты наш партрэт у музеі не будзе апошнім падарункам. Хачу пажадаць, каб да гэтага дома людзі хадзілі. Вас сёння шмат, усе вы розныя, і калі кожны з вас прывядзе сюды сваяка, калі настаўнік прывядзе клас, міністр – кабінет міністраў, журналісты – калег-журналістаў, а мы з Расіі прывязем сваіх сяброў, то тут заўсёды будуць людзі. Я бачыў музеі вядомых людзей, асабліва палітыкаў, у якія ніхто не ходзіць, а вось сюды будуць хадзіць".

Аляксандр Станкевіч, які з'яўляецца таксама дырэктарам па арганізацыйных пытаннях творчай садружнасці "Маэстра", расказаў нам, што партрэт Васіля Быкава – не адзіны падарунак, які беларусы Пецярбурга прывезлі гэтым разам у Беларусь. 2 ліпеня ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт – падарунак ветэранам да 70-годдзя вызвалення горада. Такое мерапрыемства ладзіцца ўжо чацверты год запар.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ЯК БЕЛАРУСКА Ў ЗША ЗАЦІКАВІЛА БЕЛАРУШЧЫНАЙ МУЖА-РАСІЙЦА

*(Публікуецца ў скароце. Цалкам матэрыял ёсць на сайце zbsb.org)*

"Я размаўляю з мужам па-беларуску, прапаную яму чытаць кнігі пра беларускую гісторыю. На адной з імпрэзаў у Чыкага муж быў беларускім Дзедам Марозам, праўда, гаварыў крыху з рускім акцэнтам", – падзялілася беларуская эмігрантка ў ЗША Жанна Чарняўская.

Хоць ад дому спадарыні Жанны ў Нэпэрвілі да беларускай царквы ў Чыкага трэба ехаць на аўтамабілі амаль гадзіну, беларуска часта наведвае святыню. Ейнае аўто можна пазнаць здалёк па налепцы з яскравай чырвонай Пагоняю. Беларуска спявае ў царкоўным хоры і з'яўляецца намесніцай старшыні адзінага беларускага прыходу ў Чыкага.

**Паехала на канферэнцыю, а знайшла мужа**

Спадарыня Жанна нарадзілася і вырасла ў Мінску. Пасля заканчэння хімічнага факультэта БДУ працавала ў Акадэміі навук, збірала матэрыялы для кандыдацкай дысертацыі. На адной з навуковых канферэнцый у Рызе спаткала сваё каханне: на з'езд навукоўцаў завітаў з Расіі будучы муж спадарыні Жанны – Аляксандр, таксама хімік.

Пасля вяселля ўраджэнка Мінска пераехала да мужа ў Казань, дзе той працаваў даследнікам у хімічным інстытуце. У Татарстане яна адчула, як прызналася, вялікую спагаду да татарскай мовы. "Ходзячы па вуліцах Казані, я заўважыла, што некаторыя даволі непаважліва ставіліся да татарскай культуры. Мне ж гэта нагадала сітуацыю з беларускай моваю ў нас на радзіме. Я разумела, што духоўная спадчына татараў – важная, як і іншыя культуры, ды захацела больш пазнаёміцца з іхнаю мовай. Купіла сабе падручнікі і самастойна пачала вучыць татарскую мову".

Праз некаторы час спадар Аляксандр атрымаў прапанову працы ў Францыі. За ім туды накіравалася спадарыня Жанна, якая практычна за год даволі добра авалодала французскаю мовай. Але ўжо праз некалькі гадоў – напрыканцы 90-ых – сям'я перабралася ў ЗША, бо Аляксандр як хімік-адмысловец знайшоў больш прэстыжную працу ў амерыканскай фірме, што вырабляе медычныя прылады.

**Чаму "ласунак" лепшы за "лакомство"?**

Спадарыня Жанна адзначыла, што не адразу ўключылася ў беларускае жыццё на эміграцыі, хоць і заўсёды цікавілася беларушчынай: "Я выгадавалася ў рускамоўнай сям'і ў Мінску. Мая мама паходзіць з Заслаўя і вучылася некаторы час у беларускамоўнай школе, але не гаварыла на роднай мове дома. Праўда, яна заўсёды адзначала, што беларуская мова прыгажэйшая за рускую. Паводле яе, беларускі "ласунак" нашмат "смачней" гучыць за рускае "лакомство". Мне найбольш запомнілася, як мама казала з захапленнем: "Ласунак" – такое мілае і прыемнае слова, самі гукі нібы кояць, лагодзяць чалавека".

Беларускую мову спадарыня Жанна чула ў дзяцінстве ад сваіх бабуляў, якія паходзілі з Магілёўшчыны. Цудоўным апавядальнікам быў адзін з дзядуляў, які любіў расказваць беларускія былічкі-страшылкі. Вялікае ўражанне на спадарыню Жанну зрабіў выпадак, калі ўпершыню ў Мінску яна пачула беларускую мову. "Мне было тады гадоў 10-12. Я вярталася са школы з ранцам і на прыпынку пачула, як група людзей размаўляла па-беларуску. Гэта, пэўна, былі пісьменнікі. Але іх мова была настолькі цудоўнай, настолькі лашчыла слых, што я, калі прыбегла дадому, адразу загукала да маці: "Мама, я чула, што па-беларуску ў горадзе размаўляюць!.."

**"Было адчуванне, што беларусаў няма"**

У горадзе Мілуокі, куды сям'я беларускі пераехала з Францыі, было адчуванне, што беларусаў няма, падкрэсліла спадарыня. Толькі пераехаўшы бліжэй да Чыкага – у Нэпэрвіль, – жанчына змагла выбрацца ў чыкагскую беларускую царкву. Беларуская праваслаўная супольнасць у Чыкага мела тады свае праблемы: штораз меней было прадстаўнікоў пасляваеннай эміграцыі, а новыя эмігранты з Беларусі не гуртаваліся ля святыні.

"На шмат якія беларускія імпрэзы пры царкве прыходзілі беларускія габрэі, сябры чыкагскай арганізацыі "Землякі". Яны размаўлялі на цудоўнай беларускай мове і па-сапраўднаму, шчыра "хварэлі" за Беларусь", – падкрэсліла эмігрантка.

**Шлях да грамадскай дзейнасці**

Праз некаторы час спадарыня Жанна ўключылася ў грамадскую дзейнасць, хоць гэты досвед быў для яе абсалютна новы. Актывістка пачала збіраць кантакты беларусаў, што жылі ў Чыкага і ваколіцах ды не наведвалі беларускай царквы, каб запрашаць іх на адмысловыя беларускія імпрэзы.

Паступова ўцягваючыся ў грамадскую дзейнасць пры царкве, дзяячка цвёрда пастанавіла, што загаворыць на роднай мове: "Пасля столькіх гадоў на чужыне, калі я добра вывучыла французскую і англійскую мовы, мне проста сорамна перад сабою стала, што я не размаўляю па-беларуску. Наступіў момант, калі я сказала сабе "хопіць", і з пэўнага дня пачала гаварыць у сям'і ды са знаёмымі на беларускай мове. Спачатку, можа, атрымлівалася не так добра, як хацелася, але галоўнае тут – не зняверవацца".

**"Не паддавайцеся русіфікацыі!"**

Са сваім малодшым сынам Андрэем, які нарадзіўся ў ЗША, спадарыня Жанна таксама размаўляе па-беларуску, бо хоча, каб ён ведаў мову сваіх продкаў і ганарыўся ёю. Палюбіў ды ўсёй душою прыкіпеў да беларускай мовы, культуры і гісторыі таксама муж актывісткі Аляксандр, які ўсяляк падтрымлівае памкненні жонкі. "Толькі калі ён вельмі стомлены, то тады я зноў пераходжу на рускую, – дадала спадарыня. – У яго вельмі добрыя моўныя здольнасці, таму сёе-тое ён даволі хутка навучыўся казаць па-нашаму".

Спадар Аляксандр бярэ актыўны ўдзел у беларускіх імпрэзах, якія арганізоўвае ягоная жонка: у святкаванні Дня Волі, Купалля, Дзядоў, Калядаў і г.д. Аднойчы ён граў нават Дзеда Мароза на навагоднім ранішніку, вывучыўшы сваю ролю цалкам па-беларуску. "Не паддавайцеся русіфікацыі. Змагайцеся за сваю бацькаўшчыну і мову. Калі не вы, то хто? – заахвочвае знаёмых беларусаў спадар Аляксандр".

**Беларускія дыялекты ў ЗША**

У беларуска-рускай сям'і ў амерыканскім Нэпэрвілі госці могуць вывучыць самабытныя слоўцы, якіх не мелі магчымасці пачуць у Мінску, Горадні ці Віцебску. Да прыкладу, спадарыня Жанна, калі ездзіла ў студэнцкія гады на капанне бульбы ў Магілёўскую вобласць, запомніла там слова "цаўкі" (бульбіны, вараныя цэлымі ў лупінах) ды на эміграцыі навучыла ўжываць яго ўсю сям'ю.

"Наогул, калі я размаўляю па-беларуску з рускамоўнымі беларусамі ў Чыкага, то заўважаю, што яны таксама "заражаюцца" мовай, і раз-пораз у іх гаворцы пачынаюць праскокваць беларускія словы", – адзначыла дзяячка.

Вяртацца ў Беларусь сям'я Жанны Чарняўскай пакуль не збіраецца. Праўда, 12-гадовы сын Андрэй прызнаўся, што плануе некалі жыць у Беларусі. "Можа, куплю ці пабудую там лецішча", – марыць падлетак.

*Віктар Шукеловіч, belsat.eu*

# “САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ І БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА”



21 чэрвеня 2014 г. у канферэнц-зале Расійскай нацыянальнай бібліятэкі з ініцыятывы Санкт-Пецярбургскай асацыяцыі беларусістаў адбылася ўжо 22-я штогадовая навуковая канферэнцыя “Санкт-Пецярбург і беларуская культура”.

З прывітальным словам ад імя МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” выступіла сябра Управы арганізацыі, кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка. Была згадана дзейнасць Згуртавання па падтрымцы беларушчыны як у метраполіі, так і ў дыяспары, перададзеныя падарункі суайчыннікам. Сярод іншага, арганізатару канферэнцыі загадчыку Аддзела рэдкіх кніг РНБ, доктару філалагічных навук Міколу Нікалаеву быў перададзены юбілейны медаль ЗБС “Бацькаўшчына”, прызначаны памерламу летась старшыні Беларускага культурна-грамадскага таварыства ў Санкт-Пецярбургу Валянціну Грыцкевічу. Медаль будзе накіраваны сваякам знакамітага беларуса.

Прадстаўленыя на канферэнцыі даклады былі разнастайныя паводле тэматыкі і храналогіі. Начальнік аддзела інтэграваных сістэм менеджменту Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы пра Прэзідэнце РФ Дзмітрый Саўчанка аналізаваў гісторыю беларуска-расійскіх адносінаў, старшы навуковы супрацоўнік Расійскай хрысціянскай гуманітарнай акадэміі, кандыдат філасофскіх навук Аляксандр Клястоў распавёў пра інтэлектуальны рэнесанс XII ст., згаданы ўжо доктар Мікола Нікалаеў прадставіў гісторыю Навагрудскай цудатворнай іконы Маці Божай XVII ст., прафесар Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта аэракасмічнага прыборабудавання, доктар гістарычных навук Тамара Смірнова разгледзела старонкі мастацкага жыцця Ленінградскага Беларускага “Домпросвета”, старшыня Санкт-Пецяргубскага таварыства Дз. Шастаковіча Дзмітрый Салярцінскі зрабіў агляд старонак піцерска-віцебскіх музычных сувязяў.

Улічваючы месца правядзення канферэнцыі — Расійскую нацыянальную бібліятэку, — традыцыйна багата было дакладаў, прысвечаных пісьмовым крыніцам і друкаваным выданням. Так, старшы навуковы супрацоўнік РНБ Сяргей Жэмайціс разгледзеў асаблівасці заходнерускіх згадак у летапісах XV ст., у тым ліку аповедаў пра Грунвальдскую бітву. Дацэнт кафедры славянскай філалогіі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта Вольга Гусева распавяла пра асаблівасці тэксту “Прадмовы” Мікалая Радзівіла Чорнага да Берасцейскай Біблії 1563 г. Загадчык сектара старадрукаў Аддзела рэдкіх кніг РНБ, доктар філалагічных навук Андрэй Вазнясенскі раскрыў перад аўдыторыяй таямніцы Евангелля 1600 г., надрукаванага ў віленскай друкарні Мамонічаў. Найбольшы знаўца спадчыны Яна Баршчэўскага прафесар Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага тэхналагічнага інстытута, доктар біялагічных навук Дзмітры Вінаходаў спыніўся на адной з загадак пісьменніка — легендзе пра дачку Акіяну. Прафесар карэйскага Універсітэта Донгсеа, доктар філасофіі Крыс Мандэй разважаў пра Льва Клейнбарта, Васіля Розанава і нацыянальнае пытанне. Спецыфіку дзіцячых кніг на ідыш, выдадзеных у Беларусі ў 1920—1940-х гг. вызначыла ў параўнанні з кнігамі, што выйшлі ў той жа час ва Украіне, галоўны бібліятэкар РНБ, кандыдат гістарычных навук Вера Кнорынг.

Некалькі дакладаў былі прысвечаныя музычнай спадчыне. Так, выкладчык Санкт-Пецярбургскага праваслаўнага інстытута рэлігіязнаўства і царкоўных мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства, кандыдат гістарычных навук Ірына Герасімава распавяла пра асаблівасці беларускага напеву ў рускіх пеўчых кнігах апошняй трэці XVII ст. Пры гэтым аповед суправаджаўся дэманстрацыяй з удзелам спевакоў. Праілюстравала музычнымі запісамі свой выступ, прысвечаны феномену харавога шматгалосся ў літургічных жанрах Алега Хадоска, і Галіна Осіпава, дацэнт Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта кіно і тэлебачання, кандыдат мастацтвазнаўства.

Жывую цікавасць выклікалі даклады супрацоўніка Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва Юрыя Тарасава “Дапаможная паліцыя ў Беларусі ў 1941-1944 гг. Навагрудскі паліцэйскі эскадрон і іншыя фармаванні”, а таксама ў пэўнай ступені правакацыйны выступ кандыдата філалагічных навук, доктара філасофіі Яўгена Вертэля “Інтэрнэт і беларуская мова: учора, сёння, заўтра”.

Прадстаўленыя на канферэнцыі даклады былі зробленыя на высокім навуковым узроўні. Часам даволі вузкая спецыфіка тэмаў разам з іх разнастайнасцю падтрымлівала ў аўдыторыі трывалы інтарэс. Пераважная большасць удзельнікаў канферэнцыі не беларусы паводле паходжання. Беларусістыка — частка іх прафесійных зацікаўленняў. Але ініцыятыва арганізацыі гэтых мерапрыемстваў зыходзіць менавіта ад беларусаў, якія былі і сярод прысутных слухачоў.

Варта адзначыць, што піцерскія навуковыя беларусазнаўчыя канферэнцыі - унікальны для беларускага замежжа феномен. Сваёй трываласцю і навуковым узроўнем яны не маюць аналагаў ні ў гісторыі беларускага замежжа, ні ў сучаснасці. Безумоўна, навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя беларускай тэматыцы, ладзіліся і ў паваенны час прадстаўнікамі эміграцыі ў ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, і сёння арганізоўваюцца суайчыннікамі ў Польшчы, Літве. Аднак рэгулярна дзеючыя цягам болей як два дзясяткі гадоў у часе белых начэй навуковыя канферэнцыі, што суправаджаюцца публікацыяй зборнікаў, — гэта выбітная з’ява для замежнага беларусазнаўства.

У сваёй кнізе “Беларускі Пецярбург” доктар Мікола Нікалаеў абгрунтаваў думку, што на пачатку XX ст. Санкт-Пецярбург быў своеасаблівай інтэлектуальнай сталіцай Беларусі. Значная частка беларускіх навукоўцаў, культурных і грамадскіх дзеячаў тым ці іншым чынам былі звязаныя з гэтым горадам. І традыцыі інтэлектуальнай працы захоўваюцца і працягваюцца тут сёння. Пры гэтым варта асабліва адзначыць падтрымку, якую аказвае мерапрыемствам РНБ. Можна спадзявацца, што канферэнцыі, прысвечаныя піцерска-беларускім сувязям, будуць праводзіцца і надалей.

*Наталля Гардзіенка*

# ЗАСТАЦЦА Ў ГІСТОРЫІ. СТВОРАНЫ ЦЭНТР КАМПЛЕКТАВАННЯ І ВЫВУЧЭННЯ ДАКУМЕНТАЛЬНАЙ СПАДЧЫНЫ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Лёсы архіваў беларускіх дзеячаў і арганізацый у замежжы — складаная, а часам і трагічная старонка айчыннай гісторыі. Можна прывесці дзясяткі прыкладаў знікнення ці нават свядомага знішчэння каштоўных збораў нашчадкамі або нейкімі структурамі. Разам з тымі дакументамі знікае вялікі пласт інфармацыі і сам даробак суродзічаў за мяжой. Яны застаюцца нябачнымі і для даследчыкаў, і, як вынік, для шараговых суайчыннікаў.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва паўстала навукова-творчая ініцыятыва "Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа". Стварэнне такой структуры звязана з неабходнасцю сістэматычнага збірання дакументаў, друкаў, артэфактаў, што ствараліся і ствараюцца беларусамі па-за межамі метраполіі. Калі раней функцыі такога збірання ў пэўнай ступені выконвалі эміграцыйныя ўстановы на Захадзе, як, прыкладам, Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане, або Цэнтр Ф. Скарыны ў Мінску, дык цяпер, з пашырэннем геаграфіі беларускіх дыяспар, сістэматычнага мэтанакіраванага збірання даробку замежных суайчыннікаў не вядзецца. У выніку каштоўная частка беларускай культурнай спадчыны страчваецца для сучасных і будучых даследчыкаў.

Паводле задумы новы Цэнтр прызначаны для садзейнічання выяўленню, захаванню, апісанню, вывучэнню і папулярызацыі дакументальнай спадчыны беларускага замежжа на базе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Варта адзначыць, што ў БДАМЛіМ на працягу апошніх дзесяцігоддзяў ужо ішло паступовае збіранне замежнай беларусікі. Свае архіўныя зборы сюды перадалі вядомыя дзеячы замежжа Масей Сяднёў, Алесь Алехнік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель. Нядаўна ў архіў была перададзеныя вялікая калекцыя дакументаў згаданага ўжо вышэй Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Такім чынам, новастворны Цэнтр мае добрую базу для сваёй дзейнасці.

Сярод задач Цэнтра можна адзначыць выяўленне беларускіх дакументаў у замежных архівах, музеях і бібліятэках, зборах арганізацый беларускага замежжа, а таксама прыватных асобаў; арганізацыю камплектавання і стварэнне архіўных фондаў беларускіх грамадска-культурных арганізацый замежжа і дзеячаў беларускіх дыяспар у складзе Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва; навуковае апісанне дакументальнай спадчыны беларускага замежжа; спрыянне яе навуковаму вывучэнню; папулярызацыя ў беларускім грамадстве ведаў пра дзейнасць за мяжой беларускіх арганізацый, выдатных асобаў беларускага паходжання. Мяркуецца ажыццяўляць кансультаванне зацікаўленых асобаў па пытаннях захавання і вывучэння дакументаў, публікацыю матэрыялаў на падставе сабраных архіваў.

Сёння надзвычай важным ёсць збіранне дакументаў і друкаў дзеючых арганізацый і суполак, а таксама захаванне архіваў дзеячаў далёкага і блізкага замежжа. Таму Цэнтр спадзяецца наладзіць цеснае супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі як за мяжой, так і ў Беларусі, каб не даць знікнуць багатай спадчыне беларускага замежжа.

У справе супрацоўніцтва па пытаннях, звязаных з захаваннем і вывучэннем замежнай беларусікі, можна звяртацца да дырэктара БДАМЛіМ Ганны Запартыкі або гісторыка Наталлі Гардзіенкі.

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

Адрас: Мінск, вул. Кірыла і Мяфодзія, 4.

Тэл.: +375(17)3274781.

Сайт: bdamlm.by, e-mail: bdamlim@tut.by; nhardzijenka@gmail.com.

*Наталля Гардзіенка*

# КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛІПЕНЬ 2014 ГОДА

1 ліпеня – 110 гадоў таму ў Гародні нарадзіўся Генрык Глябовіч (1904–1941), рэлігійны дзеяч, святар, тэолаг.

2 ліпеня – 20 гадоў таму ў Якуцку памёр Іван Ласкоў (1941–1994), пісьменнік, перакладчык, крытык.

3 ліпеня – 70 гадоў таму, у 1944-м, у Мінск пасля цяжкіх баёў з гітлераўцамі увайшлі савецкія войскі.

8 ліпеня – 125 гадоў таму ў Бардо (Францыя) памёр Фларыян Міладоўскі (1819–1889, кампазітар, піяніст, педагог.

13 ліпеня – 310 гадоў таму, у 1704-м, каралём Рэчы Паспалітай і вялікім князем ВКЛ абраны Станіслаў Ляшчынскі.

14 ліпеня – 20 гадоў таму памёр Пётр Конюх (1910–1994), спявак, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бельгіі, ЗША і Канадзе.

16 ліпеня – 140 гадоў таму ў Бруселі (Бельгія) памёр Віктар Гельтман (1796–1874), публіцыст, удзельнік паўстання 1830-1831 гг.

17 ліпеня – 95 гадоў таму, у 1919-м, урад Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі спыніў сваю дзейнасць.

19 ліпеня – 95 гадоў таму памёр Юзаф Беркман (1838–1919), жывапісец, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. Пахаваны ў Варшаве (Польшча).

25 ліпеня – 30 гадоў таму памёр Уладзімір Караткевіч (1930–1984), народны пісьменнік Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

26 ліпеня – 105 гадоў таму на Берасцейшчыне нарадзіўся Янка Макарэвіч (1909–1995), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

27 ліпеня – 45 гадоў таму памёр Язхім Кіпель (1896–1969), грамадска-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША).

28 ліпеня – 135 гадоў таму ў в. Ачукевічы (цяпер Наваградскі р-н), нарадзіўся Васіль Рагуля (1879–1955), грамадска-культурны дзеяч, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША.

29 ліпеня – 10 гадоў таму ў Мінску памёр Язэп Юхо (1921–2004), юрыст, гісторык права, сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі Беларускі Народны Фронт, заснавальнік першай навуковай школы дзяржавы і права Беларусі, сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

31 ліпеня – 70 гадоў таму, у 1944-м, НКУС пачаў маштабную аперацыю па знішчэнні ў Беларусі збройнага антысавецкага падполля. За год было арыштавана амаль сто тысяч чалавек. Пры супраціўленні забіта каля 3 200 беларускіх патрыётаў.

31 ліпеня – 65 гадоў таму, у 1949-м, прайшоў першы з'езд Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА).

## КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД МАЕ СПЫНІЦЬ ДЫСКРЫМІНАЦЫЮ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ

Рабочая група Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі падтрымала ініцыятыву юрыста Гары Паганяйлы звяртацца ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусі наконт хібаў у моўным заканадаўстве, што дазваляюць дыскрымінаваць беларускую мову.

Змены ў заканадаўстве аб Канстытуцыйным судзе цяпер даюць магчымасць звяртацца ў яго і грамадскім арганізацыям, і грамадзянам з мэтай паказаць і ўхіліць супярэчнасці ў наяўным заканадаўстве.

Як гэта зрабіць?

Сябра Рабочай групы Асамблеі НДА Вінцук Вячорка: "Кожны з нас, беларускамоўных, сутыкаўся з стандартнай сітуацыяй: нашым дзецям не даюць вучыцца па-беларуску побач з домам; натарыус адмаўляецца па-беларуску засведчыць дакумент; у банку патрабуюць пісаць па-руску прозвішча і г. д. Аргументацыя ў чыноўнікаў, што дыскрымінуюць беларускую: "У нас дзве дзяржаўныя мовы". Але ж апошняе павінна азначаць, што акурат грамадзяне выбіраюць мову, а чыноўнік (дзяржава) забяспечвае ім права выбару. Аднак марна шукаць у заканадаўстве адпаведныя тлумачэнні і гарантыі".

Як зазначае Вячорка, Гары Паганяйла з Хельсінскага камітэта звярнуў увагу, што з нядаўняга часу не толькі дзяржаўныя органы, але грамадзяне і грамадскія арганізацыі могуць звяртацца ў Канстытуцыйны суд, калі ў законах ёсць прабелы, калізіі ды няпэўнасць. І сам праявіў ініцыятыву, напісаўшы зварот у Канстытуцыйны суд пра нявызначанасць рэальнага статусу беларускай мовы, і заклікаў іншых зрабіць тое самае.

Паводле Вячоркі, Асамблея няўрадавых арганізацыяў падтрымала справу, бо знявага беларускае мовы баліць шмат каму з актыўных людзей: "Калі ў Канстытуцыйны суд паступяць дзясяткі, а лепш сотні зваротаў з канкрэтнымі прыкладамі парушэння моўных правоў грамадзянаў, уладзе не будзе як рабіць выгляд, што "беларускую мову ніхто не ўшчамляе", а Канстытуцыйны суд змушаны будзе рэагаваць. Трэба выкарыстоўваць усе спосабы дамагання нашых беларускіх правоў".

Звароты могуць быць як пісьмовыя, так і электронныя. Арганізатары прапануюць дасылаць копіі зваротаў у СМІ, а таксама ў Выканаўчае бюро Асамблеі НДА для прыцягнення шырокай грамадскай увагі".

Асамблея НДА — гэта найбуйнейшае ў Беларусі аб'яднанне няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў і грамадзянскіх ініцыятываў, якое спрыяе развіццю дэмакратычнай праўнай дзяржавы й уплывае на змены ў грамадстве. Заснаваная ў 1997 годзе, асацыяцыя на сённяшні момант налічвае болей за 300 сябраў. Асамблея працуе таксама з НДА, якія не ўваходзяць у яе склад, але прыярытэтная ўвага аддаецца сваім сябрам — як зарэгістраваным арганізацыям, так і незарэгістраваным ініцыятывам.

Асамблея спрабавала тройчы атрымаць рэгістрацыю ў Беларусі, аднак, з розных прычынаў, Міністэрства юстыцыі адмаўляла у рэгістрацыі. У склад Асамблеі ўваходзяць як зарэгістраваныя арганізацыі, так і незарэгістраваныя ініцыятывы. У ліпені 2011 году Асамблея НДА была зарэгістраваная ў Літве.

*"Радыё Свабода"*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў ліпені: кіраўніка Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" **Алену Макоўскую, Наталлю Гардзіенка, Алега Гардзіенку, Алеся Станкевіча, Марыну Адамовіч** (Беларусь), **Віталя Бартохава** (Украіна), **Ганну Сурмач** (ЗША), **Любоў Адаскевіч** (Расія), **Артура Цурбакова** (Эстонія), **Захара Шыбеку** (Ізраіль).

Зычым шаноўным імянніннікам летняга, сонечнага настрою, аптымізму і радасці, пазітыўных і натхняльных сустрэч і падзеяў, а таксама лёгкасці ў сэрцах!

У ліпені некалькі сябраў Вялікай Рады Згуртавання святкуюць юбілеі. 16 ліпеня **Алегу Давідзюку** (Літва) спаўняецца 65 гадоў, 17 ліпеня **Барыс Пятровіч** (Беларусь) адзначыць 55-годдзе, а 21 ліпеня **Сяргею Кандыбовічу** (Расія) таксама споўніцца 55 гадоў. Жадаем паважаным юбілярам выдатнага здароўя, прыемных навінаў, імпэту і плёну ў дзейнасці, а таксама падтрымкі верных сяброў!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



# БЕЛАРУСЫ ПРЫАНГАР'Я АДСВЯТКАВАЛІ КУПАЛЛЕ



У ноч з 21 на 22 чэрвеня – самую кароткую ў годзе – беларусы Іркуцкай вобласці святкавалі Купалле. Самыя шматлюдныя і яркія гулянні сёлета прайшлі ў вёсцы Ахіны – старажытным беларускім паселішчы, заснаваным сталыпінскімі перасяленцамі яшчэ ў 1910 годзе.

"Старажылы гэтага сяла памятаюць, як шмат гадоў таму яны збіраліся на Купалле, спявалі абрадавыя песні, скакалі праз вогнішча, заводзілі народныя танцы. Паступова гэтыя традыцыі згаслі, і бабулі, калі мы прыязджалі з этнаграфічнымі экспедыцыямі ў Ахіны, толькі ўздыхалі: "Напэўна, мы гэтага ўжо не ўбачым". Ну, а мы падумалі: чаму ж не? Іркуцкае таварыства беларускай культуры праводзіць Купалле ўжо 19 гадоў, таму моладзь з клуба "Крывічы" сёлета дапамагла арганізаваць свята ў Ахінах", – распавёў Алег Рудакоў, прадстаўнік таварыства.

На заходзе жанчыны з Ахін і Іркуцка, набраўшы бярэмы кветак, сабраліся ў магічнае кола і пад старадаўнія песні пачалі плесці вянкі – не проста ўпрыгожванне, але яшчэ і абярэг ад нячыстай сілы, якая, паводле народных павер'яў, разгульваецца ў купальскую ноч. Прыйшлі на свята і князь Купаліч, і выдатная Купалінка – дачка сонца. Князь Купаліч, здабыўшы агонь па-старому, крэсівам, запаліў паходню, а Купалінка пад старадаўнія беларускія песні развяла ад паходні вогнішча. Вогнішча было складзена таксама па старым звычаі: вышэй чалавечага росту, з абавязковым слупам, на самым версе якога красавалася кола – сімвал сонца. Але ці то дровы былі макраватыя, ці то нечысць пашчыравала, толькі агонь доўга не хацеў разгарацца. Аднак пацягнуў ветрык з ракі, і полымя быццам уздыхнула і паляцела ў самае неба.

Дзе святло і цяпло – там і весялосць. Госці і мясцовыя жыхары хутка пераймалі танцавальныя рухі – полька задам, падэспань, маразуля. Тым часам парачкі, узяўшы факел, уцякалі ў пералесак – шукаць папараць-кветку, якую знайсці можна толькі ў купальскую ноч. Папараць у ваколіцах Ахін, вядома, не расце, але гэта нікога не бянтэжыла.



За танцамі ішлі песні, за песнямі – гульні.

"Мы спецыяльна з ансамблем развучвалі народныя песні: "Ой, рана на Івана", "У ноч на Купала", песню пра карыта", – падзялілася адна з самых юных удзельніц Соф'я. Дзяўчынка ўжо трэці год спявае ў дзіцячым фальклорным ансамблі "Званочкі" (кіраўнік Воля Галанава) пры Маладзёжным клубе "Крывічы". Пра тое, каб Соф'я і яе малодшая сястра Ліза не забывалі свае карані, вельмі дбае і іх бабуля.

Весяліліся і стары, і малы. Самай маленькай удзельніцы Купалля было 4 гады. Самай старэйшай госці, мясцовай жыхарцы, – за 80 гадоў. Скакалі праз вогнішча, вадзілі хітрыя карагоды, варажылі, пускаючы вянкі па рацэ.

Ноч прамільгнула, як адна гадзіна, здавалася б, зусім нядаўна згасла заходняя зара, і вось ужо пачало святлець неба на ўсходзе. Госці пачалі раз'язджацца, падзякаваўшы на развітанне жыхарам Ахін і моладзі з "Крывічоў", а ў адказ атрымлівалі запрашэнні на свята Івана Купалы, якое правядуць у пачатку ліпеня.

*Паводле Кацярыны Дзяменцьевай, "Расійская газета"*
*Фота Змітра Пракаповіча*

**Беларусы ў свеце**
№6(146), чэрвень 2014

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27